# ВЯСНА

**Штомесячны літаратурны дадатак да газэты „Камуніст“.**

**№ 7. 21 кастрычніка 1928 г. № 7.**

ЗЬМЕСТ:



**ХВ. ЯВАР.**

# Чмута.

(Апавяданьне).

— Падзівіцеся самі, таварыш артачака, як яны яго расьпісалі, —праказаў кандуктар, і пайшоў у вагон паперадзі агэнта ОРТЧК Гарбачыка.

У службовым аддзяленьні пасажырнага вагону сядзеў чалавек, від якога міжвольна прымушаў жахліва ўздрыгнуцца. Галава спрэс абмотана анучамі, праз якія сочыцца кроў. Страшэнная рудая гала, на якой ня відаць чалавечага твару. Запёклая акрываўленая адтуліна на мейсцы роту, у якой варочаецца набраклы крываточаны абрубак языка. Чырвонаармейская гімнасьцёрка і нагавіцы густа паліты крывёй. Праз расхрыстаную рубаху відаць буйныя нагнёты. Рукі, ногі забінтаваны. Усё цела скатавана. Жывога мейсца няма. Ад нямiласэрднага болю чалавек хістаецца на лаве, пакачвае ў бокі раўнамерна галавой. Знаходжаньне ў руху, відаць, аблягчае, гасіць боль цела.

Праз пераборкі аддзяленьня, у праходах высоўваюцца спалоханыя твары пасажыраў. Палючая, прагная цікавасьць у вачох—цікавасьць да чалавечых мук, чалавечага гора.

Чырвонаармеец гэты—трофэй бандыцкага налёту, што сабраўшы апошнія сілы ўсё-ж дабраўся да сваіх.

Недалёка ад станцыі—вёрст з дзесяць абстралялі бандыты мастовую варту. Да раніцы вялі перастрэлку, не пакідалі надзеі аўладаць мастом, узарваць, або

спаліць яго, спыніць чыгуначны рух. Толькі-толькі не перарваўся нэрв, толькі-толькі не спараліжавалася чыгунка. Ды не падпусьціла банду маставая варта. Да апошняга патрону вяла страляніну. Адстралялася. Із першымі праменямі нягрэючага асеньняга сонца пайшла банда ў лес. Але пайшла з трофэем. Захапілі аднаго стралка з маставае варты, што ў запале баявым адарваўся далёка ўперад ад таварышоў. Павялі з сабой. А праз колькі гадзін прыпоўз-прывалокся ён на мост. Пазьдзекваліся ўсмак „абаронцы свабоды“, спаласавалі, зрашілі ўсё цела чырвонаармейца. Сказалі: „і ўсім так будзе“, ды пусьцілі. Хай, маўляў, настраша таварышоў. А не ўстрашылі. Наклялася варта яшчэ старанней выконваць вайсковы свой абавязак, не падпусьціць банду, захаваць чыгуначны мост. Таварыша-ж скатаванага пасадзілі на першы цягнік, пераслалі брыгадай паведамленьне аб начным здарэньні.

— Вось да чаго дайшло ўжо. Што-ж далей?..—падумаў Гарбачык і спусьціўся пахмурны па сходах вагону. Від нашчаснага, напоўжывога чырвонаармейца ўсхваляваў, узрушыў. І без таго нацягненыя нэрвы гатовы перарвацца. У галаве бы туман засьціў, у вачох мігусеньне.

Нярадасны малюнак. Нічога добрага не вяшчае ён. У азьвярэлай банды хопіць нахабнасьці ўскочыць і на станцыю. На мосьце хоць атрад узброены, з якім змагацца не лёгка, а бач—паткнуліся. А тут адзін Гарбачык, адзін самотны. Няма нікога, хто-б паспачуваў нават, з кім можна было-б думкай падзяліцца. І яшчэ больш балюча адчуваецца цапер адзінота. Начное здарэньне на мосьце падкрэсьліла яе, зрабіла фізычна адчувальнай.

На чыгуначнай станцыі, маленькай людзкой выспачцы ў лясной пушчы, ўтоілася жыцьцё. Хаваюцца чыгуначнікі, замыкаюцца ў сябе. Адслужыў—і да хаты. Старанна абходзяць усё тое, што магло-б быць паказам іхнае прыхільнасьці да савецкае ўлады. Дзе тут да выказваньня прыхільнасьці? Спакой бы толькі! Паспачувай, а потым прыйдзе савінкаўская банда, ды й усьцягне на першую асіну. Ёсьць таму яскравыя прыклады. Так ціханька думае кожны. Думае і хаваецца.

І няма з кім словам перавінуцца адзінокаму агэнту ОРТЧК. Вось ужо больш за месяц, як трапіў ён у гэтую пустэльню. У партызанскім характару барацьбы з ворагам кожная драбязговая станцыя робіцца важнейшым стратэгічным пунктам, недагляд за якім можа прынесьці такія клопаты і небясьпеку. Тут роля агэнта ОРТЧК—роля цэлае баявое часткі. Бо не адкрыты бой ідзе, а бой з-за вугла, бой з агіднай зьмяёй, што кольцамі ўецца па парасьніку лясному і невядома адкуль суне сваё атрутнае джгала. У такой барацьбе зіркае, вернае вока вой як патрэбна! Гарбачык меў такое вока. Ведалі гэта ў ОРТЧК, каштоўным працаўніком лічылі і яго парашылі паслаць у бандыцкае асяродзішча, дзе ня знойдзеш спачуваючага чалавека, дзе людзі жывуць толькі інтэрэсамі сваёй хаты, сям'і— інтэрэсамі ўласнае шкуры. Сярод вакольных пасялкоўцаў, хутаран ёсьць тайныя спачувальнікі бандыцкія. Тут іх апірныя пункты, тут падсілкоўваюцца яны, адсюль тчэцца іх агэнтура, нябачная сувязь. Трэба падмеціць кожны рух,

сачыць за ўсім, што робіцца наўкола, выяўляць бандыцкую агэнтуру, сваечасова паведаміць куды трэба, адхінуць кожную небясьпеку.

Напружаная, адказная праца! Што дзень—то неспакойней, што дзень—то трывожней. Усё нахабней, усё азьвярэлей вядуць сябе бандыцкія зграі, што ахінаюць сябе пышнай, бліскучай і рамантычнай назвай баявых атрадаў НСЗРС—„Народный Союз Защиты Родины и Свободы". Годныя дзеткі вядомага ўсім Барыса Савінкава.

Як ні зьбягалі нярпыемных спатканьняў з варужнай сілай, ды па пятох за бандамі прасоўваюцца атрады асабовага прызначэньня ВЧК. І не адну банду патрапалі, зьліквідавалі яны. Але жывучыя рэшткі савінкаўцаў! Жывучыя, як зьвер лясны, і зьвяраюць яны, як загнаныя ваўкі, ляскаюць у злосьці назьмернай надламанымі атрутнымі зубамі. Люта распраўляюцца з насельнасьцю, выразаюць цэлыя сем'і. Наскочуць на якую вёску, мястэчка, зробяць сваю агідную справу, ды й ізноў у лес.

Кола атрадаў ВЧК звужваецца, трывалы вялезны ланцужок усё цясьней сьціскае банды ў сьмяротэльны абымак. У шалёных начных рэйдах блукаюць, перакідаюцца з мейсца на мейсца бандыты. Бывае—праходзяць праз чыгунку, перарвуць сувязь тэлефонную, пазьдзекуюцца з каляёвай варты чыгуначнай, абрабуюць бедны скарб старажоў каляёвых.

А нядаўна рэшткі некалькіх бандаў аб'ядналіся пад кіраўніцтвам перакінутага праз мяжу палкоўніка. Гэта сьцьверджаюць агэнтурныя даведкі. І стварылася нахабная банда, якая ўжо ня толькі з безваружнай насельнасьцю лютую расправу робіць. Бач, у шалёнасьці сваёй дзіка з засьляплёнымі вачмі кідаюцца ўжо і на ўзброеныя адзінкі атрадаў, на варту маставую.

Вось у такіх абставінах жыве, працуе агэнт ОРТЧК Гарбачык. Няма адпачынку ў дзень, няма яго і ўначы, калі патрэбна кожную хвіліну быць напагатове. Ураз бяссонныя ночы ўвайшлі ў сыстэму. Ператамленьне пачынае ўжо сказвацца. Чуе Гарбачык, што як ні спадзявайся на сілы, а іх усё меней. Нэрвовасьць нейкая зьявілася. Хваравітая падазронасьць да ўсяго, да ўсіх. Здаецца, на твары кожнага чыгуначніка бачна нейкая патаёмная пахмылка. Знаглелі быццам неяк. І ня можа Гарбачык халодным розумам развäжыць—ці так гэта, ці верагодна.

* * *

Ціха пасунуўся Гарбачык да вакзалу. Насустрач паказаўся дзяжурны па станцыі з мясцовых кулачкоў-падпанкаў. Зьмяіная ўсьмешка праслізнула па твары. Чмыхнуў востры трапяткі нос. Быццам падумаў—„і цябе тое-ж чакае, дабяруцца і да тваёй шкуры, пачака-а-ай"...

Праз якіх поўгадзіны ляцела па дроту шыфраванае паведамленьне пра здарэньне ўначы на мосьце. А 'шчэ праз поўгадзіны меў Гарбачык тэлефонную размову з начальнікам ОРТЧК.

— Ну, як, Гарбачык, мо' адпачнуць хочаш, мо' зьмену прыслаць табе?

— Не,—адказвае,—пакуль сіл хапае, пабуду. Ня гожа новага хлапца пасылаць... Пакуль звыкнецца з абставінамі, пакуль тое-

сёе—шмат прамаргаць можа—не, пабуду 'шчэ...

— Ну, глядзі...

— Да ўвесь час глядзім,—усьміхнуўся Гарбачык.

— Засядзеўся ты там...

— Пагляджу 'шчэ крыху!

Сказаў, адыйшоў ад тэлефону. А ведае—сказаў ня тое, што трэ' было-б сказаць. Ведае—апошнія сілы растрачваюцца. На іншых станцыях ужо па дзьве-тры зьмены агэнтаў было, а ён працуе дасюль бяз зьмены. З такога чалавека, што абараціўся ў клубок балючых, параненых нэрваў, працаўнік кепскі ўжо. Для працы агэнта ОРТЧК патрэбна спакойнасьць, вытрыманасьць, халодная разважнасьць. А яе як раз усё меней ды меней. Нэрвы, пачуцьці пачынаюць валодаць над розумам, развагай. Дрэнна гэта. Небясьпечна. Могуць памылкі, недагляды быць.

Але-ж і зьехаць, патрабаваць зьмены няма як. Трэба пабыць хоць пакуль ліквідуецца гэтая палкоўніцкая банда.

* * *

К вечару яшчэ лепшая навіна прыйшла. Прыбег з мястэчка, што ў 8 вярстох, яўрэйчык, з плачам апавядае: палкоўніцкая банда, не пабаяўшыся і сьвету дзённага, напала на мястэчка, абрабавала. Каторых забіла, каторых у лес павяла, выкупу патрабуе. Добра відаць арганізавалася банда. Некаторыя з правадыроў гавораць паміж сабой на нейкай незразумелай мове. Відаць афіцэрства адукаванае.

І зноў пісаў Гарбачык шыфртэлеграму. І зноў меў размову па тэлефону. Абяцаўся начальнік ОРТЧК паведаміць атрады ВЧК, а к раніцы і сам выедзе.

* * *

Сьцямнела. Захаваўся ў цёмных векавых бярозах будынак вакзальны. Здалёку паблісківаюць зялёныя агеньчыкі стрэлак, адбіваюцца праменьчыкамі кволымі на рэйках. Воддаль зьзяе-мігціць зорка жоўценькая сэмафорнае шчоглы. Ціха ўсё. Апрача дзяжурных, што сядзяць прытаіўшыся кожны ў сваім кутку, сьпяць усе на станцыі. Ні ў воднай хаце ня відаць агеньчыку. Толькі дрэвы ківаюць верхавінамі пад подыхам асеньняга сівернага ветру, вядуць сумную, нікому не зразумелую гутарку. Ды гудзіць працягла тэлеграфны дрот. Ляснуць дзьве дзьверы нашчыльна зачыненыя. Прашурхацяць на пад'езьдзе абрыўкі паперы, узьнятыя ўгору ветрам.

Ня сьпіць Гарбачык. Ходзіць, блукае. Кожны гук ловяць чулыя нэрвы. Ад кожнага ледзь прыкметнага шолаху ўздрыгвае напружанае, паданае ўперад цела. Вочы імкнуцца зрабіць немагчымае—прарэзаць чорную цемру.

Абшнураваў некалькі разоў станцыю. Падыйшоў пад стрэлачныя будкі—ці на мейсцах усе дзяжурныя службоўцы, ці не паразьбягаліся пад ціскам начное самоты. Заглянуў і на пасёлак, праверыў варту добраахвотную, што насьпех з'арганізавала вечарам сама насельнасьць. Усё ў парадку. Але што з таго! Што могуць зрабіць усе гэтыя безваружныя людзі проці азьвярэлых бандытаў. Атрад ВЧК далёка. Дапамогі, паратунку ў выпадку небясьпекі чакаць немагчыма. Пакінута станцыя на сваволь ства лёсу.

Далёка 'шчэ раніца. Далёка дзень, калі можна спакойна ўздыхнуць, атрымаць магчымасьць хоць

маленькага, на гадзіну якую, адпачынку.

Зморанасьць сёньня адчуваецца як ніколі. Вакол вачэй нейкае балючае кольца, што самохаць сьціскае, сплюшчвае вочы, нагане сьлёзы. Адмаўляюцца, ня хочуць глядзець вочы. Ператаміліся за бяссонныя ночы. Гарачая, цягучая кроў стукае ў скроні, залівае мозаг. Галава гарыць полымем. Зьмякла, стамілася цела.

Сну, сну. Вось чаго патрэбна Гарбачыку. Здаровага глыбокага, асьвяжаючага, умацоўваючага сну.

Уладарна прад'яўляе свае правы абясьсілены арганізм. І цяжка стомленаму розуму саўладаць з целам. Дасюль падпарадкавалася. Дысцыплінаванае было. А сёньня выходзіць з пад улады.

* * *

Морыць, перасіляе млявасьць. Гарбачык накіраваўся ў вакзал. Моцна ляснулі дзьверы і па вялікаму, пустому, цёмнаму і халоднаму калідору цэглянага будынку вракацілася гучнае рэха. Нешта заварушылася на вуглох. Чыркнуў Гарбачык запалкай. Агледзеўся. Нікога няма. Мусіць пацукі разьбегліся, спалоханыя нечаканым парушэньнем спакою. Але на душы неяк нудна. Неспакойна.

Прайшоў у свой пакой, што быў ля самага выхаду на пад'езд. Запаліў газьнічку. Бруд, холад, пуста. Ля вакна стол з рэшткамі ежы. Насупроць — ложка, прыладжанае на козьліках. Пара зэдлікаў. Вось і ўся мэбля. Падцягнула да сябе печка,—хочацца абагрэцца. Але ня грэе яна—ня топлена. А холаду ў кожанцы не перасіліш. Растапіў печку. Загула. Ад гукаў хоць і агню, а ўсё спакайней, весялей неяк. Нібы нехта жывы, спачуваючы зьявіўся ў пакоі. Падсеў да агню і цяплыня паплыла па целе. Так прыемна, так добра, лагодна...

І паволі, няпрыкметна пачала схіляцца галава. Сон пачынаў ўладаць зморанным Гарбачыкам. Зьмяклае цела нахінулася ўперад, ледзь ня скінулася з зэдліка. Гарбачык усхапіўся, разьмяўся.

Не хацелася выходзіць з цёплага, што стаў такім прытульным пакою. Паглядзеў на гадзіньнік—палова пятага. Хутка і раніца. Пастаяў. Паразважаў. Парашыў легчы спаць.

Раптам узьняўся віхор і кінуў шматок пяску ў вакно. Узрыгнуў Гарбачык. А пасьля адцягнуў у бок ложка, каб ня было наўпроці вакна, завесіў вакно газэтай, адшпіліў з папругі гранату і разам з рэвальвэрам паклаў ля ложка і лёг.

Але дзе той і сон лёгкі прыемны, што так люба прымаў у свае абымкі! Пачынае засыпаць Гарбачык і вось—падае ў нейкую процьму. Кружыцца галава, неяк моташна робіцца. Падымаецца Гарбачык, ловіць поўным ротам паветра. Нібы палегчае. Ізноў ляжа. Толькі пачынае засыпаць, і—ізноў процьма, ізноў нудзіць. Як раз, як некалісь, калі з перапою ня мог заснуць, такое адчуваньне было. Але то з перапою. Цяпер жа Гарбачык ня піў і піць ня зьбіраецца. З чаго-ж то? Што за чмута такая? Да чаго аслаб, да чаго страпаны нэрвы! Не, мусіць такі трэба прасіцца на адпачынак. Якая тут праца ў такім становішчы...

І доўга варочаўся, кідаўся Гарбачык, пакуль цяжкі, цьмяны сон не ахапіў у канец змучанае, млявае цела.

* * *

Нясецца па дарозе ў векавых ліпавых прысадах грамада коньнікаў. Перадвутрані час. Ледзь пачало разьвідняць. Нікога ня відаць. Бязлюдна. Мернае цоканьне капытоў, зрэдку конь заржэ. Коньнікі едуць бязладна‘ без парадку. Няголеныя, калматыя, брудныя твары. Не вайсковая адзінка, а зграя нейкая рознаколерная, розкашэрстая. Пярэстыя ўбёры. І праўда, то—банда. Папераздзі вусаты палкоўнік у блішчучых пагонах. Трохі за ім некалькі маладзейшых афіцэраў. Уехалі ў пасёлак, азірнуліся і, ня сьцішыўшы коняй, проста накіраваліся на станцыйны пад‘езд. Лязгат капытоў адгукаецца ў пакоях і калідоры сьцішнага вакзалу. Пасаскаквалі з коняй, шпарка ўваходзяць. І проста да пакою Гарбачыка. Моцна, груба стучаць у дзьверы. Ведаюць, што на іхным баку сіла...

* * *

Занепакоіўся на ложку Гарбачык. Стогне, мармоча нешта, перакідаецца з боку на бок, а ўстаць ня можа.

Настойлівы стук не супыняецца. Усхапіўся Гарбачык, перамог сон. Праціраe вочы.

Чуе—недачакаўшыся пайшлі дзвынкаючы шпорамі на пад‘езд. Падходзяць пад вакно, чапляюцца за карніз, грукае падваконная бляха.

Апошнія абымкі сну скідае з сябе Гарбачык.

Паміраць, дык паміраць з трэскам. А раней бандытам нашкодзіць.

Схапіў гранату, скінуў кольца, выпрастаўся і з сілай кінуў у вакно.

Страшэнны працяглы грукат —выбух устрос будынак і ўзьняўся слуп пяску,каменьня, павылятаці ўсе шыбы. Скінулася з вакна газэта.

* * *

На пад‘ездзе, абціраючы кроў з парапенага пальца і дакорліва ківаючы галавой, стаіць начальнік ОРТЧК.

Адзін з двох ягоных спадарожнікаў агляда прабіты аскепкам гранаты шынель. На калеях чутно пыханьне паравозу. У вакно прабіваюцца сонечныя вясёлкі.

— Сон... Чмута...—мармытаў зьбянтэжаны, зьмяшаны Гарбачык.

— Ай-яй, Гарбачык... казаў я табе—зьедзь! адпачні! Да чаго дасядзеўся!... Добра, што ля самага вакна стаялі, а сіла ў цябе, відаць, ёсьць—шчасьлівы пералёт выйшаў! Так, так... Ня трэба было мне слухацца цябе... Паедзеш сёньня ў рэзэрв!—праказаў толькі начальнік ОРТЧК і разрагатаўся. Разрагатаўся здаровым, моцным, вясёлым сьмехам.

Ст. Асіповічы.



АЛЕСЬ ЖАЎРУК.

# Васеньняя лірыка.

Восень.., Ветраў разьюшаны
лямант,
Не гамоніць гармонікам даль;
Залатая кляновая замяць
Адшумела па сонных садах...
Восень... Ветраў разьюшаны
лямант.

———

Заламаўшы у роспачы пальцы
Над пахілаю брамаю клён
Зажурыўся аб чэрвені палкім
І застыў агалелым гальлём,
Заламаўшы у роспачы пальцы.

———

Хай шчаціняцца далі іржышчам
І сумуе, сумуе прастор—
Дарагая мая, не кажы 'шчэ,
Што згубілася дзён хараство—
Хай шчаціняцца далі іржышчам.

———

Не кажы, не паверу ніколі,
Што губляем мы ружы, што
дзень—
Ў гэтым суме 'шчэ радасьці
столькі,
Ў гэтых далях 'шчэ столькі
надзей—
Не кажы, не паверу ніколі!

———

Хутка стынь і пуховая замяць,
Хутка росквіты новай красы:
Захлябнуцца раздольлі шамкамі,
Будуць санкі прастор палазіць—
Хутка стынь і пуховая замяць.

———

Вер: забудзецца роспач і сьлёзы,
Калі ў ночку рубінавых зор
У буйнай навеці звонкіх бя-
розаў
Завіецца туман дзеразой—
Вер: забудзецца роспач і сьлёзы.

———

І ўсьміхнешся вясёла, шчасьліва
Васількамі вачэй маладых,
Будуць песьні ярчэць ў пера-
лівах
І сама скажаш: „роспач бы дым“,
І ўсьміхнешся вясёла, шчасьліва.

———

Калі ўперадзі шчасьця кілішкі—
Значыць сёньня ня слацца
травой!
Дарагая мая, не кажы-ж ты,
Што згубілася дзён хараство,
Калі ўперадзі шчасьця кілішкі!

Рагачэў.

ЯЎХІМ КОХАН.

# Госьці.

Дарога каленіцца млява ад сьпёкі,
Ўпаўзаючы стомна ў прысады—
Чаго-ж і чаму яны рады,
Парваўшы раптоўна з задумай глыбокай
І ўзьняўшы ўрачыстасьць параду?

Скрозь пушчы, прысады, палі і лагчыны,
Бубённы гул скача футболам,
Аркестры ў разгуле вясёлым
Ліюць медна-гартны напеў ў далачыні,
Як думы свайго камсамолу.

Абвеяў кашлатаю грываю пылу
Шлях іхнія юныя твары...
О, вёска мая! Сьвежачарай
Вітай ты іх гмах малады, агнякрылы,
Вітай гарадзкую фанфару!

Насустрач гармонік з свайго буралому
Салютнуў ад вёскі, ад імяні многіх,
А бубен, як конь лёгканогі,
Дрындуе запеніўшы звонамі бомы,
Аж рады таемна разлогі.

Аж мора вясковае, мора людзкое
Прыбоямі шыр заталяе
І гэта імклівасьць жывая
Ў стыхійным, душэўным сваім неспакоі
Цікавасьцю к госьцям палае.

Ў жыцьці прыгажэй усяго, што раптоўней—
Што вы асьвяжыць нрышлі вёскі сьвядомасьць
І моцны імпэт даць жыцьцю маладому,
А сьвежасьцю поля ўсе грудзі напоўніць,
Вам сьвежасьцю ‘нічэ невядомай.

Палянка...
Бярозкі...
Вясёласьць...
Сход...
Гульні...
Паветра дрыжыць гучнай струнай;
Сышліся з бяздумнасьцю юнай,
Аддаўшыся радаснай стрэчы разгульна
Пад сонечна-зычнай карунай.

Слуцак.

БАРЫС МІКУЛІЧ.

# Сьмерць Сократа.

(Эцюд).

Калёсы загрухаталі, уяжджаючы на грэблю. Як і раней, беглі паабапал дбароў крывыя і сьмешныя цені ялін, хацелася хутчэй адпачынку, хацелася выпрастаць скручаныя ногі. Уперадзі замільгацелі агні. Бы першыя зоркі ўвечары—замільгацелі агні, схаваліся, ізноў заківалі жоўтымі чупрынамі, манячы да сябе.

Мы пад'яжджаем к пасёлку „Колас". Нехта падганяў коняй і пад грукат калёсаў чуўся гэты покліч няпэўным:

— Но-о-о... Сівенькі-і-і...

Галосныя літары словаў, здавалася, ляцелі ўгору,—яны вельмі кволыя, вельмі напалоханыя начнымі абставінамі, і коні, мабыць, іх ня чулі.

* * *

Пасёлак „Колас" адбудаваўся два гады таму назад. Раней Астрошычы былі буйнейшай вёскай на шмат вёрстаў, але засталося там зараз двароў пятнаццаць.

Прышлося пакінуць старую вёску сяльчанам, бо давалі больш зямлі, а зямля для чалавека — жыцьцё ўсё.

Раней пасёлак „Колас" уяўляў з сябе раскіданыя хацінкі, што на шмат сажняў раскідаліся па гонях, як трухлявыя грыбы. Але потым з працягам часу гаспадаркі прынялі належны выгляд і чын.

Была ў некаторых сялян зямля добрая, якая радзіла ніштавата, але была і гэткая, што сеялася на ёй першы раз і прыходзілася ля гэтай зямлі калупацца да сёмага поту.

Жыў „Колас" як жывуць шмат беларускіх пасёлкаў,— кожны займаўся сваёй гаспадаркай. Жнівеньскія вечары былі гэткімі-ж лагоднымі і цёмнымі, гэтак жа зьвінеў „конік" у мяжы, гэтак жа часам неслася жніўная песьня:

Добры дзень, жнейкі маладыя,
Жнейкі маладыя—сярпы залатыя...

А на небе гублялася зорка Вэнэра паміж больш ярчэйшых зорак. А гай аплятаўся хмелем тумановым і пазіраў здалёк хмурна.

Раніцай—
нёбасхіл румяніўся, старыя таполі ў панскім фольварку гублялі рубіны...

Раніцай—
заводзіў над жытнёвымі хвалянямі жаўрык песьню і ня сьціхаў ужо цэльны дзень...

Рабінаю цьвілі дні.

Нараджаліся падзеі і здарэньні і таксама адцьвіталі, ападалі пялёсткамі.

* * *

Адна акалічнасьць надоўга засталася ў памяці коласаўцаў.

Жыў сярод іх стары дзед Нічыпар, які ня ведаў нават колькі год мае, які памятаў 'шчэ прыгон панскі.

Як задумаў сын Нічыпара пераяжджаць на пасёлак—

— прасіў стары сына, каб яго пакінуў дажываць век у вёсцы:

— На што валэндацца маеш са мной, сынку... Пакінь тутака... Прымайструюся ў варыўні і пражыву неяк...

Але дзе там пакінуць старога.

Прышлося старому скарыцца.

Быў дзед Нічыпар цікавым

чалавекам. Некаторыя нават лічылі ведзьмаком яго. Ведаў Нічыпар розныя травы і прыправы ад хвароб і вока дрэннага. Праўда, былі здарэньні, што дапамагалі гэтыя лекі старога дзеда, як кашаль хваробе, але большасьць пасялкоўцаў верылі ў моц дзеда.

Раньнем звычайна накіроўваўся Нічыпар у лес, за грэблю, браў з сабой кашолку. Адшукваў там нейкія карэньні, клаў у кошык, а потым сушыў дома.

Доўгі час быў Нічыпар лекарам Астрошыч. Любілі яго і баяліся часам сяляне. Любілі дзяўчаты і хлопцы, як апавядаў дзед пра прыгон, пра розныя цуды, пра сілу нячыстую. І ахвочы-ж быў дзед да гаворкі. Сядзе ўвечары ля хаты, пачне апавядаць, нізаць адну да аднэй думкі, вырашаць філёзоўскія пытаньні.

— Вось паглядзіш на жыцьцё і незразумела робіцца... Жывеш гэта, дзеткі, а потым каюк, значыцца... Уся твая гаспадарка, сям'я, суседзі—усё згіне і будзеш ты чурбан чурбаном...

Казаў і глыбока ўздыхаў.

* * *

Прышоў у пасёлак з арміі Сымон Ярчак. Ну, вядома, хлопец вучоны, ведае на якіх кітох зямля трымаецца. Прышоў і новыя парадкі заводзіць стаў. Спэктаклі ладзіць з хлопцамі пачаў, газэты чытаць уздумалі.

Не спадабалася Сымону, што трымаюць сяляне дур у галаве —знахару вераць.

Стаў сьмяяцца:

— Лепей-бы ў мястэчка да фэльшара паехалі. Яйцы аддаваць Нічыпару на трэба было-б...

Спаткаў аднойчы Сымон Нічыпара пры людзях. Шапку зьняў, пакланіўся нізка.

— Я да тваёй ласкі, дзеду... Нештачка вось костачка ные...

Нічыпар сур'ёзна агледзіў Сымонаў палец і адказаў:

— А ты, хлопчэ, прыпаркі рабі... Павінна прайсьці.

Сымон зарагатаў, а за ім і ўсе хлопцы.

— Вось табе і лекар!.. Не пазнаў ці ёсьць хвароба...

Дзед затурбаваўся, потым паглядзеў на Сымона і з пагрозай праказаў:

— Пажартуй, пажартуй, дзеткі, са старога... Але забаліць, пабачыш...

І пайшоў.

Пагорблены, як крук, пацыбаў па вуліцы.

* * *

Потым дзед прапаў.

*Як было вельмі часта*—сабраўся дзед у лес па лекі. Перад гэтым нявестцы казаў:

— Знайду гэткае карэньне, што забаліць ужо Сымону... Няхай не жартуе...

Нявестка, пужаючыся, перахрысьцілася.

Пайшоў дзед і не вярнуўся. А потым знайшлі старога мёртвым на грэблі. У закручаных пальцах трымаў ён нейкі корань.

* * *

Кожны народ, як-бы нізка стаяў ён на драбіне цывілізацыі, мае свайго філёзофа. І коласаўцы мелі гэткага. Але памёр коласаўскі Сократ... Яшчэ доўга казалі бабы:

— Адпомсьціў-бы Сымону. Няйначай...

І верылі яшчэ мацней моцы нябожчыка.

ЦІМ. ЗРЭБНЫ.

# Мінулае.

Вечар голаў кудлатую зьвесіў,
Зашумела ля бору лаза...
Разьвіталася Зося з Алесям—
Ён пайшоў у кусты к партызанам...

———

„Ну, бывай-жа, Алеська каханы,
Зычу шчасьця табе ў дарогу.
Калі сам ты ня справішся з панам,
Забярэш і мяне на ўспамогу!"

———

Толькі гэтыя словы сказала,
Іншых слоў у душы ня было,
І на сэрцы з назойлівым жалем
Паплялася паціху ў сяло...

———

... Зрок вячэрні лажыўся над лесам,
Палахліва шумела лаза...
. . . . . . . . . . . .
Ну, бывай-жа, каханы Алеська,
Будзь адважны з цябе партызан!

* * *

Ноч. Пад чорнаю хусткаю-шальлю
Сьпяць абшары, загоны, палі...
Толькі Зося ўсю ночку ня спала,
Думкі страшныя ў голаў плылі...

———

А назаўтра, як сонца з-за лесу
Кроўю пырснула ў небны туман...
Па сяле пранеслася вестка,
Што Алеся ўжо болей няма...
. . . . . . . . . . . .
Ой, і плакала-ж Зоська, рыдала—
Сьлёзы падалі ў белы хвартух...
. . . . . . . . . . . .
Дзесь за вёскай жалейка іграла,
Гнаў у поле гавяды пастух...

———

Падымалася сонца над лесам,
Сумавала ля бору лаза...
Ну, бывай назаўсёды Алеська!
Ўспамін вечны табе, партызан!

Слуцак.

———

ВАЛАСЭВІЧ ЯНКА.

# Загубіла зара залатыя ключы...

Залатыя ключы загубіла зара
І знайшла іх даўно ўжо сьвежая рань...
Месяц скінуўся з высі за лес адпачыць,
Загубіла зара залатыя ключы.
І знайшла іх даўно ўжо сьвежая рань,
Адамкве імі дзень, як падыйдзе пара.
Затрапечыцца радасьць, спавітая сном...
Рань ключы залатыя знайшла ўжо даўно.
Адамкне імі дзень, як падыйдзе пара,
І пазбудзецца сэрца былых усіх ран,
Думкі-мары да шчасьця ў прасьцяг павядзе.
Як падыйдзе пара, адамкне раньне дзень.
Ужо ключы залатыя згубіла зара,
Адшукала даўно ўжо іх сьвежая рань.
Месяц скінуўся з неба за лес адпачыць...
Загубіла зара залатыя ключы.

Рагачэў.

ЯЗЭП СТРАТАНОВІЧ.

# ПРЫКАЗКІ, ПРЫСЛОЎІ І ІХ ПАЧАТАК.

## „Курыца ня птушка, а жанчына не чалавек".

З гораду дзяк Андрон Пічулькін зьвярнуўся ня толькі вельмі нездаволены, але з такім выглядам, як быццам яго хто з-за вугла мучным мяшком спудзіў. Нават жонка яго, дзячыха Праскоўя Кувалдаўна, як гукала не сама пападзьдзя, і тая была вельмі зьдзіўлена, што яе Назарыч зьвярнуўся зусім цьвярозы; і як яна не дапыталася, што такое з ім здарылася, ні слова ён ёй не адказаў, лёг не па звычаю на слонец, а не на ложак і, задраўшы ўгору галаву, пазіраў на столь і нешта марматаў.

— Што-ж ба гэта такое з ім здарылася,—дзівавалася Кувалдаўна, сумна пазіраючы на свайго гаспадара. — Ці з парахвіі зьмянілі, ці ў іншы прыход перасунулі, а мабуць зусім груцу таўкці ў намастыр пашлюць.

— Назарыч?

— А!

— Ці чуеш?

— А?

— Ці зноў у намастыр?..

— Не.

— Ці мабыць данос быў, што на папу вярхом на масьлянай п'яны езьдзіў?

— Ды не! Цыц, баба, адкасьніся; чаго прычапілася як сьляпы к плоту? Езьдзіў?!.. Ён на мне заўсёды езьдзіць... Табе гэтага не зразумець, бо курыца ня птушка, а баба не чалавек, брысь, а то высьпяткам. Хіба ты можаш зразумець умсьцьвеннасьць, пісаніе. Ні ў жысьць! Цьфу!—І падняўшыся з слонаку, дзяк пачаў апранацца, узяў у рукі кій і вышаў з хаты.

— Кій узяў—гэта да папа пашоў, бо ў таго зьлюшчыя сабакі, —сьцяміла дзячыха і ўздыхнуўшы села на лаўку.

Калі дзяк увайшоў у пакоі папа айца Саўваціа, апошні сядзеў у крэсьлі і пераглядаў „Царкоўныя ведамасьці", шукаючы ў іх, ці хутка яму дадуць каміла́ўку. Па твару дзяка поп здамысьліўся, што здарылася з ім нешта надзвычайнае.

— Ужо зьвярнуўся?

— Зьвярнуўся.

— А зачым уладыка гукаў?

— Ня ведаю.

— Як ня ведаю? Ды ва ўладыкі быў?

— Быў.

— Уладыку бачыў?

— Не, ня бачыў.

— Як ня бачыў?

— Ня бачыў, а чуў.

Тут поп вылупіў вочы, зьдзіўлена зірнуў на дзяка, разінуўшы рот і падумаў: здаецца як быццам і не тае...— Не зразумелы мне твае адказы. Дык чаго ты прышоў?

— А вось, ваша прападобіе, растлумачце вы мне... Вядома, духоўнае багаслоўскае адукацыі я не атрымў, так як вы, але ў намастыру нас, паслушнікаў вучылі, што ў кожнага чалавека, але толькі ў мужчыны, ёсьць душа, а жанчыны душы ня маюць, бо курыца ня птушка, а жанчына не чалавек, і што душа гэта дух, які ня мае цела, а выход-

зіць што ўсе гэта брахня, хлусьня бо душа мае ногі.

— Як так? Ты брат дзячэ, таго, не кашчунствуй,— строга глядзачы на яго, адказаў айцец Саўваці, — а то ведаеш, што за гэта?

— А так, што калі сам сьв. уладыка (архірэй), які мае найвышэйшую духоўную адукацыю, ды гэтак лічыць, дык тут ўжо умсьцьвеннасьць наша не патрэбна.

— Як непатрэбна? — яшчэ больш зьдзівіўся поп.

— А так, што прыхаджу я да яго. Дзьверы адчынены. Я ў першы пакоік — няма нікога, я ў другі—няма нікога, я далей—пуста. Падышоў я аж да самое апачывальні ўладыкі, аж чую адтуль яго голас:

— Ну, душанька, цяпер ты надзявай панчошкі, ды ідзі хутчэй да хаты...

ЯЗЭП СУКАЛА.

## Ну і таты!

Вось цяпер дык нашы таты!
Ну вя таты—парасяты!
Я ў Чырвонай Слабадзе
Гэта вывеў на судзе.
Справа там вось гэтак была,
Нейк аднойчы ад Гаўрыла
Хлапца дзеўка прыдабыла:
Фактаў ёсьцека багата,
Што Гаўрылка яго тата.
Але ён падлюга, злодзей
Зацьвярдзіў; „Ня я“, дый годзі
— Хай дакажуць яе сведкі,—
Гэтак кажа напасьледку.
Але мабыць на дасьветках
Сам Гаўрылка наш стараўся,
Каб чорт лысы не нарваўся.
Суд-жа знаючы закон,
Разабраўшыся у справе,
Ўстанавіў, што бацька ён.
І Гаўрылку прыкаціў,
Каб штомесячна плаціў
Алімэнты свайму сыну
Па чырвонцу з палавінай.
Пачасаў Гаўрылка з заду...
Я-ж яму тут тыц параду:
— Калі шкода алімэнтаў,
— Не чапай-жа і кабетаў.

Веска Гулевічы, Ч.-Слабодзкага р.



# БІБЛІАГРАФІЯ.

**„РУНЬ“.** Часопісь літгуртку імя Маладняка пры Рагачэўскім Белпэдтэхвіку №№ 2, 3 і 4.

Рагачэўскі літгурток адзін з самых старых літгурткоў акругі. Ён працуе ўжо каля трох гадоў, а за гэтакі тэрмін можна зрабіць шмат. Некаторыя сябры гуртку ўжо друкаваліся, а некаторыя і зараз друкуюцца.

Аб прозе ў часопісі. З закончаных апавяданьняў у гэтых нумарох мы маем два: „Пасклізнулася“ і „Злодзей“—С. Падарожнага. Першае з апавяданьняў мае мэтай маляваць некаторыя моманты жыцьця пэдтэхнікуму, моманты адносін паміж студэнтамі і студэнткамі. Сам па сабе зьмест апавяданьня вельмі ўжо „лірычны“,—няма паступовага разгортваньня сужэту, няма стала вызначанай мэты апавяданьня. „Любоўная“ тэма трактавалася і трактуецца ў літаратуры шмат. Апавяданьне т. Падарожнага займаецца вырашэньнем проблемы. Але вырашэньне гэтае вельмі дзіцячае, вельмі хутка зьмяняюцца „эмоцыі“ гэрояў (гледзячы па атмасфэрнаму ціску...). Абразок „Злодзей“ быў-бы добрым, але няма ў ім сталага сужэту, а пісаць нясужэтныя рэчы ды яшчэ црэнна —справа няўдзячная. Яшчэ ёсьць у часопісі два пачаткі апавяданьняў, але паколькі яны няскончаны—казаць аб іх цяжка. Але ўжо відаць: апрацоўка, мова і форма апавяданьняў нікудышная.

Поэзія займае ў часопісі дамінірукучае месца. На яе і накіроўваецца найвялікшая ўвага, бо яна куды цікавейшая за прозу.

Я разглядаю два варыянты арыгінальнага вершу: вельмі добра апрацаваныя, аднавядаючыя запатрабаваньням вершаскладаньня, з пэўнай ідэяй або зьместам і другія вершы—слабыя, але маючыя імкненьні стаць „арыгінальнымі“.

Вершаў першай варыяцыі ў часопісі амаль што няма, за выключэньнем двух—трох вершаў Янкі Валасэвіча і Алеся Жаўрука. Самым лепшым, на мой погляд, вершам Янкі Валасэвіча трэба лічыць верш „З недалёкага“. Але... Ёсьць некаторае—але. Вось паслухайце;

> У белі ўсе паляны.
> У шэраві гаі...
> Ой, як цяжка раны
> У сэрцы загаіць...
> . . . . . . . . .
> „Не пылит дорога
> Не дрожат листы.
> Подожди немного,
> Отдохнеш и ты“...

Ах, выбачайце, пераблытаў з Лермантавым! Ніштаватым вершам Алеся Жаўрука з вялікай колькасьці яго твораў я лічу верш „Выйдзем“. У ім ёсьць і даволі трапныя вобразы, здавальняючыя рыфмы. Толькі час ужо, тав. Жаўрук, кінуць вашу „радасьць“, вашы „заклікі“. Аднымі заклікамі рэвалюцыі не зробіш, а тое, што вы любіце жыцьцё —мы верым. Трэба-ж для жыцьця нештачка зрабіць, а?

Усю астатнюю масу вершаў можна аднесьці да другой маёй варыяцыі. У адных вершах гэтага гатунку ўсё тая-ж „радасьць“, тыя-ж „палёты“ песьняў, тыя-ж заклікі. У другіх вершах—„сум жыцьцёвы“, „раны сэрца“, „міра-

вая роспач“... А ўсё гэта ад таго, што хочацца насіць імя поэты, усё ад таго, што хлопцы нявучацца, не прыглядаюцца да твораў пісьменьнікаў. Дзе-ж там! Вось Некрасаў ня ведаў, якім намерам піша!.. А клясык-жа! Вершы Падарожнага і Хмеля ў большай колькасьці слабыя. Ёсьць у апошняга верш „Сястра“ па зьместу цікавы, але як ён напісаў? Рыфмы, нават рытму няма. Калі гэта так зв. „белы“ верш, дык трэба і прытрымлівацца тэхнікі апошняга. А то атрымліваецца, як той казаў—„У гародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька“.

У другім вершы Хмеля чытаем:

То ня лязг кайданоў
заржавелых,
То ня плач начавіцы-савы,
Гэта вы,
Вы краіны лапцюжнай
Арляняты ўзьняліся ўгары.

Першае параўнаньне вымагае ад далейшых радкоў інакшага: арлянятаў параўноўваць з крыкам начавіцы-савы і лязгам кайданоў? Добрыя арляняты! Іх спужаюцца ня толькі „пернатые“, але і чалавек хрысьціцца пачне, які веруючы...

Надобных ляпсусаў шмат.

Агульны мой вывад: матар'ял „Руні“ слабы, зусім слабы. Трэба пільней працаваць над сабой, больш увагі аддаваць вучобе.

Тэхнічна часопісь выдана дрэнна. Шмат памылак, дрэнна чытаць. Час ідзе вельмі хутка і трэба рагачэўцам пасьпяваць разам з жыцьцём.

Б. М.



Рэдактар **М. Лынькоў.**



# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ
на
## СВАЮ АКРУГОВУЮ СЯЛЯНСКУЮ ГАЗЭТУ
# „Камуніст"!

Кожны падпішчык нашае газэты атрымоўвае штомесячна два бясплатных дадаткі: літаратурны „ВЯСНА“ (у якім удзельнічаюць усе літаратурна-мастацкія сілы акругі) і каапэратыўны „ЗА КАЛЕКТЫЎ“, прысьвечаны пытаньням каапэратыўнага жыцьця і калектывізацыі ў нашай акрузе.

Газэта „Камуніст“ у кожным нумары дае спэцыяльны вялікі аддзел сельскае гаспадаркі, у якім удзельнічаюць лепшыя аграмамічныя сілы акругі і сяляне вопытнікі. Ёсьць спэцыяльны аддзел аграномічнай кансультацыі.

Газэта „Камуніст“ шырока інфармуе свайго чытача-селяніна аб усіх замежных падзеях, аб жыцьці Савецкага Саюзу і шырока высьвятляе жыцьцё і побыт вёскі акругі, усе галіны нашага савецкага будаўніцтва на вёсцы.

Газэта „Камуніст“ мае рэгулярны аддзел юрыдычнае дапамогі селяніну, дае адказы на запытаньні сялянства, дае яму мэдыцынскія парады.

У газэце „Камуніст“ наладжваюцца рэгулярныя аддзелы „Куток паляўнічага“ і „Куток фізкультурніка“.

### Умовы падпіскі:

на 1 месяц—25 капеяк,
на 3 мес. — 75 капеяк.

Падпіску здавайце пісьманосцам, паштовым агэнцтвам і аддзяленьням, ці перасылайце непасрэдна ў кантору рэдакцыі (Бабруйск, Сацыялістычная, 87, канторы газ. „Камуніст“).

Рэдакцыя газ. „Камуніст“

Бобракрліт (Бел) № 1073. Бабруйск, друкарня Камунтрэста.